№ 15 (131). Вільня, 30 Чэрвеня 1938 г. Год X.




1964 г.

# Пад развагу з прычыны Дня Коопэрацыі

*(12.VI у Польскім Гаспадарстве адбыўся Дзень Коопэрацыі).*

Час паваенны — гэта час узросту нацыяналізмаў. Прыняў ён у шмат якіх ,краёх розныя формы і ахварбоўкі, але ўсюды мае адну афіцыяльную задачу—абараняць сваю нацыянальную групу перад націскам, перад паходам групы другой. На'т такія ярыя, здавалася-б, староньнікі інтэрнацыяналізму, як камуністы, і тыя маюць свае чыста нацыянальныя інтарэсы. У памяшчэньнях францускай камуністычнай партыі відаца гэткія напісы-лёзунгі, як „праца ў Францыі толькі для французаў".

Сарганізаваныя нацыяналізмы паасобных народаў маюць на мэце аднак ня толькі абарону свайго групавога інтарэсу перад другімі нацыянальнымі групамі, але йшчэ ў большай меры гатуюць наступ на другія групы. Бачылі мы гэта на прыкладзе італьянска-абісынскай вайны, дзе нацыяналізм італьянцаў напаў і падбіў стаячую на ніжэйшым культурна і грамадзка-гаспадарчым узроўні грамаду абісынцаў. З мінулага і сучаснага стану Эўропы бачым, што нацыяналістычны кірунак узрастае і магчыма, што будзе далей узрастаць і ня толькі ў вялікіх гаспадарствах, як Нямеччына, Італія, але і ў меншых, як Мадзяршчына, Румынія, Югаславія, і г. д. У Польшчы нацыяналістычны кірунак спатыкае супроцьдзеяньне ў шматлікіх нацыянальных меншасьцяў, якія не зракуцца свайго ўласнага народнага „я".

У гэткіх абставінах народам негаспадарственным (недзяржаўным) вельмі цяжка весьці сваю ня толькі палітычную, але і грамадзка-культурную, чыста асьветную працу. Асабліва цяжка гэта для тых нацыянальнасьцяў, якія ў пару гаспадарчага і палітычнага лібэралізму ня здолелі належна разьвіць нацыянальнай сьведамасьці. Апошняе адносіцца асабліва да нас, Беларусаў. Дзе-ж тады нам шукаць ратунку? Бязумоўна, ратунак мусім знайсьці ў сабе. Перад вайною польскія патрыёты шукалі ратунку ў сацыялізьме, праз каторы прайшлі амаль усе незалежніцкія дзеячы Польшчы, пачынаючы ад выхадцаў гораду і вёскі, а канчаючы на абшарніках. Шмат хто з іх пасьля пакінуў сацыялізм і на'т з ім змагаўся і змагаецца. Гэта аднак не перашкаджала ім у патрэбе карыстацца сілай фізычнай і маральнай сацыялізму. У нашыя часы, у часы ўзросту нацыянальнай ненавісьці, у часы пажыраньня слабейшага сільнейшым, сацыялізм шмат страціў з свайго папярэдняга аўторытэту і сілы. Таму мы мусім шукаць яшчэ іншых сілаў, якія знаходзяцца каля нас, а асабліва ў нас самых.

У сучасны мамэнт той адыгрывае ролю, хто сільны ня толькі маральна-палітычна, але і гаспадарча. Народны арганізм украінцаў ці жыдоў у Польшчы таму адыгрывае такую вялікую ролю, што ён скансалідаваны нацыянальна і гаспадарча. Украінцы моцна стаяць арганізацыямі гаспадарчымі, перад усім коопэратыўнымі, жыды тое самае маюць у гандлі і промысьле прыватным. Мы ані таго, ані другога ня маем. Пры сучасных абставінах трудна спадзявацца на разьвіцьцё беларускага прыватнага гандлю і промыслу, які цалком захоплены ў чужыя рукі. Таму мусім зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізаваны гандаль і прамысловае ператворства — на коопэрацыю. Бязумоўна, у цяперашнім стане коопэрацыя мае кіраўніцтва на нашых землях з людзей нацыянальна нам чужых. Але ніз, падстава чыста беларуская. Нам трэба толькі стыхійна ўліцца ў рады коопэрацыі, якая пры добрых нашых стараньнях ня толькі дасьць нам магчымасьць віціснуць чужы элемэнт з гандлю і часткава з промыслу на нашых землях, але што галаўней, дасьць нам вялікую апору ў нашым жыцьці агульна-народным. Як не казаць — арганізацыя гэта сіла. А нам якраз не хапае арганізацыі, якраз не хапае арганізаванае сілы. У коопэрацыі мы навучымся цаніць грамаду, навучымся жыць паграмадзку і думаць супольнымі катэгорыямі. Коопэрацыя мае апрача гаспадарчай рацыі, вялікую сілу маральна-ўзгадаваўчую. Яе нам выкарыстаць трэба.

П—м.

*Гэты нумар „Шляху Моладзі", з прычыны Дня Коопэрацыі пасьвячаем справам гаспадарчым. Пры тым паведамляем, што ў м-цы ліпні сёл. „Шлях Моладзі" выйдзе толькі адзін раз, дня 25.*

Нумар гэты з прычын тэхнічных выходзіць з спазьненьнем.

## Падтрымлівайма сваіх рамесьнікаў

У 19-гым стагодзьдзі, калі моцна разьвіваўся фабрычны промысел, рамясло згубіла сваю даўнейшую сілу і значэньне. Фабрыкі масава пусьцілі на рынак свае вырабы, якія ў прадажы былі шмат танейшыя за вырабы рамесьленыя. Але з гэтага нявыгаднага палажэньня рамясло ўсё-ж выйшла пераможна. Практыка выявіла, што побач прамысловай прадукцыі, можа зусім добра разьвівацца і рамясло.

Вось-жа цяпер усюды дбаюць аб магчыма найшырэйшае разьвіцьцё рамясла, якое ў цэласьці гаспадарчага жыцьця кожнага народу займае выдатнае месца.

Як-жа гэтая справа прадстаўляецца ў нас, Беларусаў?

Ня зусім добра. Беларусы да рамесьленай фаховасьці ня прывязваюцца. Сярод беларусаў добрыя рамесьленыя фахоўцы—пераважна чужынцы: шаўцы, краўцы, кавалі — жыды, скуры вырабляюць — татары, а аўчыны беларусам на кажухі прыяжджалі вырабляць расейцы аж з калужскай губэрні. Цяпер у беларускія сёлы наехала ўжо нямала рамесьленікаў з каранной Польшчы. Тут трэба адзначыць, што ў Польшчы існуюць спэцыяльныя арганізацыі, якія накіроўваюць польскіх рамесьнікаў у наш край і іх тут падтрымліваюць пазычкамі грошаў і арганізацыяй варштатаў працы.

Гэтак прадстаўляецца рамесьленая справа ў нашай краіне. На яе трэба зьвярнуць належную ўвагу і нам, беларусам.

Нашыя сёлы поўныя народу: на малазямельных гаспадарчках за адным аднаконным плужком можа хадзіць па двух артаёў, маючы яшчэ ў „рэзэрве“ баранавалока-падростка і пастуха, а шафу, хамут, кесоны на калодзеж і інш. робіць рамесьленік, што прыехаў здалёку і добра тут маецца.

Кожны, хто захоча на гэта зьвярнуць увагу, прызнае, што тут нешта не ўпарадку. Кожны прызнае, што гэтую справу трэба паставіць вось гэтак:

Беларуская моладзь павінна брацца за рамясло; павінна вучыцца рамясла фаховага, а не „кустарнага“, якое ў беларусаў абазначаецца сказам насьмешкі „клін і мох“. Беларусы павінны даваць работу сваім беларускім рамесьнікам і купляць вырабы рамясла ў сваіх беларускіх рамесьнікаў.

Гэткай салідарнасьці вымагае і цэласьць гаспадарчага жыцьця нашага народу і ўласны інтэрас кожнага, нацыянальна-сьведамага і нясьведамага нацыянальна, беларуса.

М. А.



*Грамадзяне! Памятайце аб бел. моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускай вучнёўскай незаможнай а здольнай моладзі на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja 1. Свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для Беларускага Народу!*

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy 9)

## Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

### Hygijena spažyvieckich praduktaŭ

**Małako,** možna kazać, najbolš raspaŭsiudžanaja strava ŭ śviecie žyviołaŭ i ludziej. Kožny čałaviek, nia hledziačy na bahaćcie, znatnaść rodu i h.d. šmat miesiacaŭ u pačatku žyćcia žyvie vyklučna małakom. U biełaruskich umovach sialanskaje haspadarki małako pavinna być nia tolki važnym, jak krynica tannaje i dobraje *stravy* a adnačasna krynicaju dachodu, pry dobrym vykarystańni usich mahčymaściaŭ pry haspadarcy z małočnymi praduktami.

Spynimsia tutaka vyklučna nad *hygijenična-lekarskaju* staranoju małočnaje prablemy.

Kožny viedaje jak vyhladaje małako — heta biełaja ciakomina (cieča), jakaja zaležna ad bolšaha ci mienšaha prac kłustaści ŭ joj byvaje žaŭtavataja abo siniavataja. U małace majem vadu, białki, kłustaść, sol i cukar. Praktyčna ŭ žyćci pobač z małakom žančynaŭ karystajemsia ŭ nas amal nia vyklučna małakom karoŭ. U inšych narodaŭ raspaŭsiudžana karystańnie małakom kozaŭ, aviečak, kabyłaŭ.

Małako źjaŭlajecca praduktam adumysłovych małočnych załozaŭ, ci jak kažam — „hrudzioŭ“ ci „vymja.“ Załozy małočnyja pracujuć nie zaŭsiody. Pačynajuć pracavać paśla pieršych radoŭ, kab prakarmić novanarodžanaje dzicia. Ludzi vykarystoŭvajuć pracu załozaŭ, źbirajučy sabie małako, nie addajučy zusim, abo tolki častkava, pryrodnamu ŭłaśniku — h. zn. dziciaci maciary.

Pieršaje małako paśla radoŭ maje asobny nazoŭ — *małodziva.* Małodziva vydzialajecca svaimi svomaściami ad štodziennaha małaka: jano kłuściejšaje, maje bolš mineralnych solaŭ i dziakujučy hetamu jano pračyščaje stravatraŭčy prachod.

Kali małako staić spakojna ŭ pasudzinie, ziarniatki kłustaści ŭ jom vychodziać navierch i tuju častku małaka, dzie henaje kłustaści budzie najbolš, zaviem *śmiatanaju.* Sabraŭšy źvierchu śmiatanu, pakiniem małako „posnaje.“ Jość adumysłovaja pryłada, jakaja nie dazvalaje sabiracca śmiatanie. U pryładzie henaj pad vialikim ciskam (da 250 atmasferaŭ) ziarniatki kłustaści robiacca nadta drobnieńkimi i astajucca raspylenymi u masie małaka, sabirajučysia naviersie. Nazyvajem heta homogenizacyjaj.

Małako śviežaje smašnaje, krychu sładkavata-

# Зьмены ў савецкай землябоскай гаспадарцы

Ад пачатку існаваньня савецкай улады землябоства ў Саветах прайшло некалькі этапаў. Яшчэ на першым зьезьдзе Саветаў, у часы кастрычнікавага перавароту, быў выданы дэкрэт аб сканфіскаваньні бяз выкупу памешчыцкіх і царкоўных земляў, якія разам з жывым і мёртвым інвэнтарам перайшлі ў распараджэньне гмінных Земскіх Камітэтаў і паветавых Саюзаў Сялянскіх Дэлегатаў. Права да зямлі прыслугоўвала кожнаму, хто сам з сваей сям'ёй хацеў зямлю абрабляць індывідуальна, ці супольна.

Крыху пазьней, бо 19.II.1918 г. Выканаўчы Камітэт Саветаў выдаў дэкрэт аб соцыялізацыі зямлі. Ад гэтага часу зямля перайшла з індывідуальнай уласнасьці на ўласнасьць усяго народу, у даным выпадку гаспадарства (дзяржавы), як эманацыі (даверніка, прадстаўніка) народу. У тым-жа годзе 27 чэрвеня маскоўскі губэрніяльны зьезд Саветаў прыняў пастанову, што: „Задачай пралетарыяту і беднага сялянства ёсьць арганізацыя камун і савецкіх гаспадарак. Падзел зямлі, жывога і мёртвага інвэнтара ёсьць на руку толькі багацейшай часткі сялянства, кулакам. Для беднаты адзіны ратунак — арганізацыя камун і вялікіх саўгасаў. Не дзяліць двароў, а арганізаваць з іх камуны". У тыдзень пазьней Рада Народных Камісараў утварыла фонд з 10 міл. рублёў, які меў пайсьці на рэалізацыю вышэй паданай пастановы. У 1919 г. пайшлі далейшыя дэкрэты аб арганізацыі калектыўных гаспадарак, пры чым адрозьніваем іх тры віды: *камуны, арцелі і тозы* (т-ва супольнага абрабляньня зямлі). На працягу ад 1918 г. (кастрычнік) ца 1921 г. (красавік) стварылася: 3120 камунаў, 10185 арцеляў, 2514 тозаў. Прычыны, якія спанукалі савецкую ўладу арганізаваць вялікія гаспадаркі, не выплывалі з самае толькі праграмы камуністычнае партыі: хадзіла тут аб рэчы больш рэальныя — аб хлеб. Усе маладыя, усе здольныя сілы з вёскі былі выпампаваны ў чырвоную армію. Асталіся ж толькі старыя й дзеці. Вайна, якая трывала без перарыву ад 1914 г., да рэшты зьніштожыла ня толькі промысел, але і вёску. Для колькімільённай савецкай арміі не хапала хлеба. Не хапала так-жа хлеба і для гораду, дзе сядзела найбольш верная апора савецкай улады — пралетарыят. Зямлі ў Саветах хапала, ня было толькі каму яе абрабляць. Мала таго. Ня было спрыяючых умоваў для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Грошы савецкія ўпалі. Наступіла спэкуляцыя таварамі. Улада на свае патрэбы не магла на вёсцы купіць патрэбнай колькасьці хлеба і змушана была тасаваць рэквізыцыі. Забіраўся ад сялян хлеб, які, па думцы сав. ўлады, быў лішкай ураджаю. Селянін, якому за мінімальнай аплатай забіралі хлеб, не хацеў яго шмат прадукаваць і стараўся мець толькі на свае патрэбы. І вось тут пры помачы калектыўных гаспадарак думала сав. улада налажыць кантроль. Аднак памылілася. Камуны і арцелі першага пэрыяду арганізаваны былі не гаспадарамі, а камуністамі, часткава анархістамі, якія працаваць у сельскай гаспадарцы пры сав. умовах не змаглі. Камуны адна за другой развальваліся, павялічваючы і да таго вялікі хаос.

Бачачы тады, што савецкая ўлада пры такіх умовах ня здолее ўтрымацца, Ленін у сакавіку 1921 г. уводзіць Новую Эканамічную палітыку — „*Нэп*". У гэтым часе рэквізыцыі касуюцца, уводзіцца падатак у натуры, г. зв. „прадналог". па заплаце якога селянін меў права прадаваць лішку на рынку. Быў устаноўлены прыватны гандаль. Нэп паставіў сав. вёску ў зусім новыя ўмовы. Даў ёй магчымасьць выявіць свае індывідуальныя здольнасьці. Таму ўжо ў наступных гадох плошча засеву значна ўзрасла, а яшчэ больш узрос ўраджай. У 1921 г. было засеена ўсяго 50.100.000 гэктараў (га), а ў 1922 — 60.300.00 га, каб у 1927 г. паступова дайсьці да 87.499.000 га. Ураджай падняўся з 1.529.000.000 пудоў да 4.525.000.000. — Але ўзрасла ня толькі прадукцыя збожа, павялічылася так-жа колькасьць коняў (з 20.000.000 у 1922 г.

---

je. Nadta redka traplajecca, što i śviežaje małako maje błahi pach ci smak. Pryčyna hetaha ŭ kormie: karovy jeli papsutuju pašu horkaje zielle, abo dastavali niejkija leki.

Zaŭsiody kali małako staić, asabliva ŭ ciaple, dyk jano *bryźnie*, a potym *kiśnie*. Bryzłaść małaka heta pieršaja stupień kisłaści. Kiśnie ž jano, dziakučy bakteryjam u pavietry, u pasudzinie, na skury. Kisłaje małako maje biazumoŭna svoj smak, šmat chto jaho lubić, adnak z haspadarčaha boku heta ŭžo pradukt mienš *varty*. Dziela hetaha, kab nie dapuścić da kišeńnia małaka, dajuć da jaho roznych lekaŭ, jakija adnak časta mohuć. być škodnymi dla zdaroŭja.

Pry kišeńni małaka bačym u jom *try* čaści — naviersie śmiatana, pad jeju syravatka i tvaroh. U syravatcy jošć šmat karysnych častak z małaka, miž inšym bolšaja čaść małočnaha cukru astajecca ŭ syravatcy, pobač z cukram bačym tamaka šmat białka dy amal nia ŭsie mineralnyja soli. U svomaści kišeńnia małaka lažyć pryhataŭleńnie adumysłovych praduktaŭ takich, jak *kumys, kefir, jogurt* Usie henyja pradukty doŭha byli nadta popularnymi dziela svaich lekarskich svomaściaŭ, adnačasna ludzi pili ich achvotna, bo ŭsie jany davoli smašnyja. U tataraŭ-ža kumys źjaŭlajecca, možna skazać, nacyjanalnym napitkam.

Pryhataŭleńnie ŭspomnienych praduktaŭ nadta prostaje. U zvyčajnaje małako dadajuć adumysłovyja bakteryi; paśla niekalkich ci niekalkinaccaci hadzin atrymoŭvujuć z małaka jogurt (bakteryi — pałački jogurta), abo kefir (bakteryi kaŭkaskija) dy inšyja. Da kumysu treba ŭziać kabyłaje małako. Treba tutaka jašče dadać, sto ŭ kumysie jošć kala 2—3 proc. alkaholu. Nia tre' tady dzivicca, što Tatary hetak achvotna jaho pjuć: ichniaja relihija zabaraniaje im pić vodku ci piva, dyk pjuć alkahol ŭ kumysie.

Jak užo była hutarka, kišeńnie vyklikajecca bakteryjami. Bakteryi henyja niaškodnyja. Jošć adnak i nadta niabiaśpiečnyja ŭ małace, ad jakich, kali nia budziem aściarožnyja, možam ciažka zachvareć. Da najbolš raspaŭsiudžanych i niebiaśpiečnych bakteryjaŭ ŭ małace naležać bakteryi suchotaŭ, paśla bakteryi vuhlanki, aktinomykozy, tyfusu, karoviačaje vospy, škarlatyny, dy jašče šmat jakich inšych. Dyk, kali čujem ab zarazie, asabliva-ž, kali čuli ci čytali ab zahadach sanitarnych ci palicejskich uładaŭ, kab aścierahacca zaraznych chvarobaŭ, tady treba parupicca, kab nie nažycca chvaroby z małа-

да 243.000.000 у 1928), кароў (з 248.000.000 да 380.000.000). Тое самае было з сьвінямі і авечкамі.

У Савецкай Беларусі час Нэпу быў вельмі спрыяючым ня толькі для народнай гаспадаркі, але і для беларускай культуры. Дзякуючы даволі лібэральнаму трактаваньню нацыянальных рэспублік, у Беларусі вядзецца тады перабудова аграрнай стуктуры. Побач з надзяленьнем сялян зямлёй у формах саўгасных і калгасных, выдзяляюцца самастойныя гаспадары на хутары. Не здарма пасьля, пры ліквідацыі г. зв. нацыянал-дэмакратаў („нацдэмаў“) савецкая прэса пісала, што „нацдэмы шлюць у нарком землі Прышчэпу*), сеяць хутары як рэпу“. На вярхох савецкага алімпу былі тады спрэчныя кірункі па пытаньню развязкі зямельнай справы. Левае крыло партыі, на чале якога быў Троцкі, стаяла за разбудову промыслу. Сродкі на разбудову промыслу радзіў ён узяць з вёскі. Разьвіцьцё промыслу мела адцягнуць з вёскі шмат лішніх там рук і памагчы ў сацыялістычнай перабудове вёскі. Другое крыло партыі, на чале з Бухарынам і Рыкавам, стаяла за далейшай разбудовай новай эканамічнай палітыкі; стаяла яно за тым, каб памагчы разьвіцца і ўзмоцніцца сялянству, ськіраваць надвыжку ўраджаяў на міжнародны рынак, разбудаваць унутраны рынак і, апіраючыся на яго, будаваць промысел.

*) Прышчэпаў гэта тагочасны камісар земляробства Сав. Беларусі, расстрэлены пасьля ў пару „ліквідацыі нацдэмаўшчыны“.

На вёсцы тымчасам адбываліся цікавыя працэсы. Дзякуючы даволі лібэральнай палітыцы, на вёску пачалі сьцякацца гадунцы вёскі, якія перш выехалі ў горад. Адплыў з гораду быў вялікі. На вёсцы лягчэй было пражыць. Пачалося драбленьне гаспадарак. Інвэнтар падчас вайны і рэвалюцыі быў зьнішчожаны. Асабліва адчувалася нястача коняў, у выніку чаго бяднейшыя гаспадары не маглі належна абрабіць сваіх палёў і пачалі здаваць зямлю ў арэнду сялянам багацейшым, самі працуючы як наёмнікі ці то ў вясковых багацейшых гаспадароў, ці то ў вялікіх савецкіх гаспадарках. І тут сав. улада застасоўвае цікавы вынахад: у некаторых мясцох сарганізавалі машына-тарктарныя станцыі, якія на невялікую заплату аралі, сеялі, жалі і малацілі для тых сялян, каторыя ня мелі коняў.

Каб палажыць канец умацаваньню індывідуальнага карыстаньня зямлёю, у 1927 г. апрацаваны, а 15.XII.1928 г. выданы былі новыя правілы арганізацыі сельскай гаспадаркі. Сталін і кампартыя сталі кіраваць на поўную колектывізацыю вёскі. Дзеля таго што вёска сама ня вельмі гарнулася да калектываў, а шмат дзе паставілася зусім варожа, асабліва заможная частка вёскі, кампартыя выслала з гораду 10 тысяч камсамольцаў, якія мелі малое паняцьце аб працы на ральлі, але затое шмат мелі сілы каб гнаць сялян у калектывы прымусова.

Ад гэтага часу датуецца занепад у сельскай гаспадарцы СССР. Раптоўна падае колькасьць жывёлы, якую сяляне, гнаныя гвалтам у калгасы рэзалі. Прыяжджаючыя на вёску камсамольцы заставалі сялян перад піўнымі і манапалькамі, дзе яны напіўшыся плакалі і праклiналі ўладу, якая іх да гэтага давяла. У некаторых мясцовасьцях калектывізацыя даводзіцца амаль да 80—90 працэнтаў. Вынікі яе не далі на сябе доўга чакаць. Калі яшчэ ў 1928 г. было ў СССР 26 міліёнаў сьвіней, то ўжо ў 1929 г. было іх толькі 20,4 міл., у 1930—13 міл., а ў 1931—7.8 міл. Лік авец з 133.3 міліёнаў у 1929 г. апаў да 57.2 міліёнаў у 1931 г. Тое самае было з каровамі, тое самае з канямі. — Напалоханы вынікамі „сацыялізацыі“ і бачачы, што далейшая прымусовая калектывізацыя да нічога добрага не давядзе, Сталін выдаў сваё пісьмо аб „головокружении от успехов“ і аб „унтерах Пришибаевых“, аднак гэта сытуацыі не ратавала. У Саветах пачынаецца голад. Што-раз менш вывозіцца заграніцу, а некаторыя часы мусяць на‘т купляць для сябе прадуктаў. На Беларусі, а асабліва на Украіне, дзе сяляне прывыклі да індывідуальнай гаспадаркі, перажываюць нязвычайна цяжкія часы. Непаслушныя багацейшыя сяляне, кулакі, якіх паводле савецкай тэорыі павінна быць у кожнай вёсцы ад 3—5 прац., ма-

---

ka. Amal nia ŭsie bakteryi ŭ małace prapadajuć, kali nahreć jaho da temperatury 90—100 hradusaŭ, značycca prosta, pakul małako nie *zakipić*. Nia treba, kab małako doŭha kipieła, lepš na‘t było-b, kab varyć daŭžej biaz kipieńnia. Apošniaja zaściaroha duža važnaja dla małych dziaciej, jakija kormiacca jašče amal nia vyklučna małakom. Dzicia, kormlenaje stała varanym małakom, dastaje razvalnieńnia žyvata i budzie chudzieć.

Pieravaranaje *(pasteuryzovanaje)* małako možna śmieła pić, moža jano stajać pa niekalkinaccać hadzin i daŭžej, kali tolki było ščylna začynienaje ŭ butelcy. Najbolšaja na‘t haračynia tady ničoha jamu nie paškodzić.

Karystajucca inšym sposabam, kab małako nia kisła, nie psavałasia ahułam, kab było smašnaje i biaśpiečnaje. Manhoły i Japoncy *zamarožvajuć* małako.

Robiać jašče h. zv. *suchoje* małako, ci inakš małako „ŭ parašku.“ Sušać jaho, nalivajučy ŭ vialikija pasudziny, mocna padahravajučy i pamahajučy adnačasna paravać.

Jašče inšy sposab — heta małako *skondensovanaje*. Šmat mo‘ chto bačyŭ u 1919-20 hadoch, kali ŭ nas na vioskach davali jaho ludziam roznyja amerykanskija misii. Tutaka małako varycca, až pakul nia budzie jaho u 2-3 razy mienš. Paśla, daŭšy cukru, nalivajuć u blašanki. Jasna, što małako ŭ parašku i skondensovanaje treba u blašankach ščylnia začynić i zalutavać.

Śviežaje małako, ci pieravaranaje, zusim čystaje, h. zn. biez bakteryjaŭ, moža adnak być škodnym i jakha tym, kamu jano najbolš patrebnaje, małym *dzieciam*. Całaha nieraźviedzienaha małaka im nie dajem, bo zaraz u ich budzie volnaść. Novanarodžanamu da adnej čaści małaka treba dalić *try čaści* pieravaranaj vady. Miesiačnamu dziciaci na 1 čaść małaka — 2 čaści vady. U 3-im i 4-m miesiacy—na 2 čaści małaka — 1 čaść vady. Ad 4-ha da 8-ha miesiaca — na 3 čaści małaka — 1 čaść vady i ad 8-ha miesiaca možna davać całaje małako.

Dziela-ž taho, što małako karovy mienš sałodkaje, maje mienš cukru čymsia małako žančyny, treba na kožnych 100 hramaŭ małaka dać 2,5 hramy cukru; inakš — na šklanku raźviedzienaha małaka adnu harbatniuju łyžačku cukru.

Karystajemsia nia tolki samym małakom, ale tak sama i jahonymi praduktami. Da henych praduktaŭ naležać: *masła, syr, maślanka, syravatka i inšyja*.

сава высылаюцца „в нестоль отдаленныя места, для усвоенія новых земель“. За час калектывізацыі Савецкая Украіна страціла (высланы і памерлі з голаду) каля 8 міліёнаў асоб. Савецкая земляробская гаспадарка апынулася ў тупіку.

(Канец будзе).

*Інж.-аграном П. З.*

## *А Р Т А Й*

*Валачыся, сівы конік,*
*Не далёка да канца...*
*Сем барознаў у загоне...*
*Цесна троху для сяўца...*

*Што-ж мой конік, прыстаеш ты,*
*Лоб спускаеш да калень?..*
*Пэўна думаеш пра нешта...*
*Мо' пра жыта, пра ячмень?*

*Мо' авёс табе прысьніўся?*
*Праўда, даўна каштаваў...*
*А мо' толькі замарыўся?*
*Чаму цяжка галава?*

*Мо' як я і ты чакаеш*
*Лепшай долі із зарой?*
*А ці прыйдзе... ты ня знаеш, —*
*Ну, загон хоць зааром!*

*Лічыш лепшай тую долю,*
*Каб цябе не запрагаць,*
*Каб гуляць сабе у волю,*
*А ня поркацца-араць...*

*Не. мой конік, я ня гэтак*
*Ў лепшай долі жыць хачу...*
*Араць буду, вясну й лета, —*
*Ну — звіднее у ваччу...*

*Г. Новік.*

## DOLA SIALAN PAD UŁADAJ FARAONAŬ

*(Z historyi Ehiptu)*

Najchutčej z usich narodaŭ świetu raźvilisia kulturna i stvaryli haspadarstva ehipcijanie. Jany žyli ŭ Afrycy na pabiarežžy vialikaj raki Niłu. Heta raka štohod rehularna ŭ adnu paru vychodzić z svaich bierahoŭ i šyraka raźlivaje svaje vody, raznosiačy vielmi ŭradžajny muł; vody Niłu apadajuć paśla ŭ svaje naturalnyja bierahi; taksama rehularna Ehipcijanie na hetych papłavoch Niłu siejali ŭsiakaje zboža i aharodninu, a hod mieryli ad raźlivu da raźlivu.

Z postupam kultury ehipcijanie pačali hetyja raźlivy Niłu rehulavać, kab vada raznosiła muł mahčyma najšyrej i najdalej pa jahonych pabiarežžach. Heta ich uśviedamiła ab patrebie i nieabchodnaści arhanizacyi, što daviało da stvareńnia haspadarstva.

Ehipt, jak haspadarstva (dziaržava), paŭstaŭ da 4.200, abo i bolš hadoŭ prad naradžeńniem Chrysta. Hetaje haspadarstva pratryvała niekalki tysiačaŭ hadoŭ, pakul jaho nie zavajavaŭ perski karol Kambiz za 525 h. prad naradžeńniem Chrysta.

U ehipieckim haspadarstvie na čale stajaŭ faraon, inakš — karol, a „nižej“ byŭ hetki hramadzki padzieł: žracy — duchavienstva, vajaki, abšarniki, čynoŭniki, miaščanie, sialanie i niavolniki.

U Ehipcie ŭsia ziamla ŭ asnovie było ŭłasnaściaj faraona. Faraon razdzialaŭ ziamlu svaim paddanym vialikim abšarnikam ŭ adny ruki; vialikija abšarniki ad siabie razdzialali ziamlu mienšym abšarnikam; hetyja mienšyja tvaryli siarednich abšarnikaŭ, a siarednija małych. Siarednija i małyja abšarniki davali ziamlu sialanam, jakija ŭ ehipieckim haspadarstvie byli niavolnikami.

Słovam, haspadarstviennaja arhanizacyja ehipcijan svajo sialanstva było addaŭšy ŭ niavolu panom abšarnikam; pavodle ehipieckaha zakonu ŭsie niavolniki-ludzi byli ŭłasnaściaj faraona, abo vialikich i siarednich abšarnikaŭ. Abšarniki svaje dvary pradavali razam z ludźmi; sialanie pracavali pieravažna na ralli, ale brali ich i na inšyja raboty.

Sialanie ŭ Ehipcie sastaŭlali najbolšuju čaścinu ŭsiaho nasielnictva, ale nijakaha prava ŭ haspadarstvie nia mieli. Mieli tolki abaviazak — pracavać i pakorna słuchać pana. Dziela hetaha sialanie byli vielmi biednyja. Bahaćciem dzialilisia pany z haspadarstvam.

Dola sialan była znosnaja tolki tady, kali na prastole byŭ dobraha serca faraon, abo lepšy biezpasredny pan — abšarnik, ad kataraha sialanie brali ziamlu na abrabotak.

Słovam, Ehipt — heta kałyska ludzkoj kultury i cyvilizacyi, jakaja ŭ značnaj miery ŭvajšła ŭ skład i sučasnaj kultury eŭrapejskaj, pieradajučy razam z kulturnymi zdabyčami sivoj minuŭščyny i sposaby vykarystyvańnia pracy sialan i rabotnikaŭ. Urešcie treba adznačyć, što ehipcijanie pieršyja prydumali sposab pieradavańnia dumak na piśmie — vydumali piśmo; jany raźvili navuku — matematyku, astranomju, historyju, medycynu i inšyja haliny viedy.

## Jašče ab Biełaruskaj Himnazii ŭ Vilni

Pałažeńnie adzinaj u hranicach Polskaj Rečypaspalitaj siaredniaj škoły — Biełaruskaj Filii Dziaržaŭnaj Himnazii im. J. Sławackaha ŭ Vilni z kožnym hodam ciažejšaje. Himnazija heta, jak my ŭžo pisali, ucisnuta ciapier u ciesnaje i niavyhodnaje pamieškańnie, pry hetym razdzielenaja pryvatnaj kvateraj na dźvie čaści. Z pryčyny ciesnaty niasumierna ahraničany lik pryjma novaŭstupajučych vučniaŭ. Novaŭstupajučyja kandydaty spatykajucca z niepakanalnymi pieraškodami na ŭstupnych ekzaminach — słabaja znajomaść polskaje movy, z pryčyny nienaturalnaści ŭ pačatkavaj škole, i niaŭmieńnia pisać pabiełarusku, z pryčyny poŭnaje adsutnaści biełaruskich pačatkavych škołaŭ dla biełaruskaha nasielnictva. Sioleta na ŭstupnych ekzaminach, pry jakich byŭ specyjalny vizytatar z Kuratoryi, z 38-mioch kandydataŭ zdało ekzamin tolki 21 asoba. Pry hetym na nastupny hod, jak daviedvajemsia, paŭstaje jašče adna trudnaść — u isnujučy internat, jaki ŭtvorany z internatu Biełaruskaha Dabradzieinaha T—va, majuć być prymanyja vučni tolki z Vilenskaha vajavodztva. A treba viedać, što z druhich vajavodztvaŭ, aprača Vilenskaha, biełaruskaja himnazija maje bolš 100 vučniaŭ, jakija dasiul žyli ŭ internacie. Hetyja ŭsie trudnaści, zrazumieła, pahražajuć i isnavańniu samoj himnazii.

Voś-ža nad hetymi trudnaściami ŭ Biełaruskaj Filii Dziaržaŭnaj Himnazii im. J. Sławackaha 26 červienia siol. radziŭ Baćkaŭski Kamitet hetaj škoły. Ułažyŭ jon memoryjał, katory 27.VI siol. delehacyja Baćkaŭskaha Kamitetu padała Vilenskamu Školnamu Kurataru, kab pradstavić školnaj uładzie ciažkaje pałažeńnie škoły, staviačy hetkija punkty: patrebu adkryćcia dla biełaruskaha nasielnictva biełaruskich pačatkavych škołaŭ, a tak-ža navučańnia biełaruskaha jazyka ŭ isnujučych polskich škołach na terytoryi zasielenaj biełaruskim nasielnictvam. Pry hetym Baćkaŭski Kamitet prosić Kuratoryju pašyryć pamieškańnie Vil. Biel. Himnazii, addajučy joj, ŭspomnienuju vyšej, pryvatnuju kvateru, jakaja himnaziju dzielić.

Dziela apieki nad pryjezdnymi vučniami, Baćkaŭski Kamitet pastanaviŭ sarhanizavać na vosień vučnioŭskuju bursu.

# Z biełaruskaha žyćcia

**Vysialeńnie biełaruskich zakońnikaŭ a.a. Maryjanaŭ z Drui.** U m. Drui kala łatvijskaj hranicy ŭžo daŭno isnuje katalicki klaštar ajcoŭ Maryjanaŭ. Zakońniki hetyja viali cichuju relihijnuju i kulturna-aśvietnuju pracu, zdabyvajučy siarod nasielnictva vialikuju prychilnaść. Sioleta adnak administracyjnyja ŭłady prykazali im pakinuć Druju da 10 červienia. I sapraŭdy, zakońniki vyjechali z Drui i zatrymalisia ŭ adnej z susiednich miascovaściaŭ (za 6 klm. ad Drui). Paśla adnak na intervencyju Ajca Hienerała hetaha zakonu A. Cikoty z Rymu ŭ Varšavie, bieł. zakońnikam było pazvolena viarnucca ŭ Druju, ale nie na doŭha, bo 23.VI, palicyja vyviezła ŭsich biełaruskich zakońnikaŭ z Drui. Nia vyvieźli tolki adnaho zakońnika, ksiandza-palaka. Proźviščy vyviezienych biełaruskich ksiandzoŭ-zakońnikaŭ nastupnyja: a. Jazep Dašuta, a. Kazimier Smulka, a. Vitalis Chamionak i a. Jury Kašyra.—Treba skazać, što pierad hetym duža pahany, prosta pravakatarski artykuł ab bieł. zakońnikach nadrukavaŭ endecki „Głos Narodowy“, a'tak-ža krakaŭski „Illustr. Kur. Codz.“ Jašče tak varoža i tak hłupa procìŭ biełarusaŭ nichto nia vystupaŭ. — Ab usim hetym budzie pamiatavać historyja... Ciažki sapraŭdy budzie ŭspamin...

**Vysialajuć i a. Jazepa Hermanoviča.** Daviedvajemsia, što administracyjnyja ŭłady vysialajuć tak-ža i a. Jazepa Hermanoviča z Vilni, katory jość superyjoram Klaštaru a a. Maryjanaŭ u Vilni i katory sioleta śviatkavaŭ 25-tyja ŭhodki svajho ksiandzoŭstva. Jamu ŭžo dany termin pakinuć Vilniu da 10 lipnia sioleta. Ciažki los biełaruskich ksiandzoŭ.

**Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju.** Sioletniaja Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju, jakaja adbyłasia 12.VI, była sapraŭdy strojnaj i vialikaj. Ludziej było da 700 asob. Pachod praz m. Vilniu i paśla ŭ Kalvaryi viali i havaryli kazańni sioletnija biełarus kija ksiandzy—jubilaty: Ks. J. Hermanovič i Ks. V. Šutovič, a tak-ža Ks. red. Ad. Stankievič. Praz uvieś čas u pachodzie byli śpiavanyja bieł. relihijnyja pieśni. Pilihrymka zakončana była ŭ Kalvaryjskim kaściele bahasłavienstvam.

**Novaja sproba kamasacyi Biełaruskaha Muzeju.** Dva hady tamu nazad ŭłady dziaržaŭnaje administracyi ŭ Vilni zaprapanavali kiraŭnictvu Biełaruskaha Muzeju, kab zhadziłasia źlić hety Muzej z polskim Muzejam T-va Pryjacielaŭ Navuk. Tyja-ž ułady prypynili tady nievialikuju dziaržaŭnuŭ dapamohu Muzeju, kataraja jšła pierad usim na apłatu muzejnaje kvatery ŭ kazionnym budynku. Adnak, ani biełarusy, ani polski Muzej na hetkaje źliććio nie zhadzilisia. Spravaj zacikavilasia Varšava, i stul było zahadana ŭznavić Muzeju dapamohu.

Ciapier-ža novaja sproba komasacyi... Vilenskaje vajavodztva źviarnułasia da dyrektara Biełaruskaha Muzeju hr. A. Łuckieviča i zaprapanavała stvaryć z Biełaruskaha Muzeju dy z muzejnaje zborki Litoŭskaha Navukovaha T-va „Rehionalny Muzej,“ jak ustanovu dziaržaŭnuju. Hetaja ŭłasnaść biełaruskaha narodu mieła stacca ŭłasnaściaj Polskaha Haspadarstva. Hr. Łuckievièu ŭłady zaprapanavali „dobra płatnaje“ stanovišča kiraŭnika „Rehionalnaha Muzeju.“

Dziela taho, što Biełaruski Muzej ni ŭ jakim vypadku nie pavinien i nia moža ŭtracić svajho nacyjanalna-biełaruskaha abličča i svajej samastojnaści, i ličačysia z volaj śv. p. Ivana Łuckieviča, katory hety płod pracy ŭsiaho žyćcia svajho addaŭ Biełaruskamu Navukovamu T-vu z tej umovaj, kab z jahonaje zborki byŭ stvorany muzej **biełaruski**, a nia niejki inšy,—hr. A. Łuckievič ad zroblenaje jamu prapazycyi admoviŭsia.

U suviazi z hetym ułady jznoŭ spynili vydavanuju dahetul na ŭtrymańnie Biełaruskaha Muzeju dziaržaŭnuju dapamohu.

Biełaruskaje hramadzianstva, biazumoŭna, pavinna padtrymać svoj Muzej ŭ ciažkoj dla jaho chvilinie, nie pavinna adnak tak-ža maŭčać Bieł. Nav. T-va, jano ŭsiu spravu pavinna naležna vyśviatlić prad usim kulturnym śvietam i biełaruskim narodam. Biełaruskamu Muzeju nia z łaski naležycca pomač ad Haspadarstva. Kali adnak jaje nia budzie, dyk bieł. hramadzianstva, pry naležnaj pastanoŭcy spravy, pavinna ŭtrymać i ŭtrymaje jaho svaimi achviarami.

**Sprava „Bieł. Krynicy.“** Najvyšejšy Sud pastanovu Vil. Akr. Sudu, jakoj spyniena „Bieł. Krynica,“ nadoviačy skasavaŭ i sprava viarnułasia ŭ Vil. Akružny Sud. Adnak aprača hetaha „Biełaruskaja Krynica“ jašče maje na sabie i druhoje spynieńnie, kataraje znachodzicca ŭžo ŭ druhoj sudovaj instancyi.

**«Снапок» nia vychodzić užo.** Unijacki bieł. časapis „Złučeńnie“ piša, što Pravasłaŭnaja Mitrapolija, na žadańnie administracyjnych uładaŭ, pierastała vydavać časapis dla bieł. pravasłaŭnych dzietak „Снапок.“

**M. Zabejda piaje bieł. pieśni dla Ameryki.** Słaŭny naš mastak Michał Zabejda-Sumicki z 15 na 16 lipnia ŭnačy a hadzinie 2—3-ciaj budzie piajać biełaruskija pieśni praz radyjo z Varšavy na Ameryku. Pieśni hetyja buduć nadavanyja na chvali SPW—22 m., 13 6 mc, abo SPD—chvala 26 m. siła 11 mc.

**Harmanizacyi biełaruskich narodnych pieśniaŭ.** Słaŭny ukrainski kampazytar Aleksandar Košyc prysłaŭ z N.-Iorku dla Biełaruskaha Choru R. Šyrmy ŭ Vilni 6 novaapracavanych biełaruskich narodnych pieśniaŭ.

Druhi dobra znany ukrainski kampazytar M. Hajvoronski, taksama z N.-Iorku, prysłaŭ 3 apracavanyja saboj narodnyja biełaruskija pieśni.

Harmanizacyja hetych pieśniaŭ vysoka-mastackaja i jany sapraŭdy uzbahačvajuć našuju muzyčnuju kulturu.

**Biełarusy ŭ polskich demakrataŭ.** 10.VI u polskich demakrataŭ A. Łuckievič pračytaŭ referat ab sučasnym pałažeńni biełaruskaha narodu ŭ Polščy.

**Z vydavieckaje nivy.** *„Запісы Беларускага Навуковага Таварыства.“* Vydańnie nieperyjadyčnaje. Šsytok 1. Vilnia 1938 h. Bač. 12. Cana 1 zł. Jość heta zbornik cikavych i cennych navukovych artykułaŭ.

*„Калосьсе“* — biełaruski navukova-litaraturny i hramadzki kvartalny časapis, knižka 2 (15). Adras redakcyi: Vilnia, Zavalnaja 1. Padpiska na hod 2 zł. Cana knižki 50 hr. — U Knižcy 2 (15) aprača biełaruskich litaraturnych tvoraŭ i bieł. navukovych artykułaŭ, jość addzieły paśviačanyja litaratury litoŭskaj i hruzinskaj.

*Uspamin z Kalvaryi pad Vilniaj.* Vydańnie II dapoŭnienaje Biełaruskaha Katalickaha Vydaviectva. Vilnia 1938 h. 40 bač. Cana 5 hr. U knižcy hetaj padany biełaruskija relihijnyja pieśni i karotkaja historyja Kalvaryi.

# ШТО ЧУВАЦЬ

Польскія палітыкі што-раз часьцей падчырківаюць, што **Польшч** гэта моцарства — вялікае гаспадарства, каторае павін на вясьці сваю палітыку самастойна і заапекавацца, згуртаваць каля сябе ўсе меншыя гаспадарствы на ўсходзе Эўропы, як Румынію, Літву, Латвію, Эстонію і Фінляндыю, а так-жа здабыць сабе прыхільнасьць Швэцыі і Мадзяршчыны (Вугры). У сувязі з гэтым мін. Бэк адбывае адпаведныя падарожы заграніцу. Апошнім часам езьдзіў ён у Швэцыю і Эстонію. Міністр Бэк канкрэтна ўжо працуе над стварэньнем блёку ўспомненых гаспадарстваў на чале з Польшчай і хоча быццам, каб блёк гэты мог супроцьставіцца Саветам, і нават, калі будзе трэба, і Нямеччыне. Пакульшто аднак падарожы і місія мін. Бэк не выклікае нават прыхільных водклікаў у прэсе заінтэрасаваных і вышэйназваных гаспадарстваў. Перад усім няпрыхільна аб гэтым блёку адазвалася **Літва.** Няпрыхільныя так-жа галасы **латвійскіх палітыкаў** апублікавала **француская прэса.** Літоўская газэта „Легувос Жінёс" піша, што Польшч перад усім павінна выраўнаць адносіны з сваімі суседзямі, пераканаць іх аб сваім міралюбівым намеры і вырачыся імпэрыялістычных мэтаў. — Вобак плянаў мін. Бэка, ген. Жэлігоўскі, а так-жа і іншыя выдатныя польскія палітыкі пашыраюць думку „славянскае ідэі," якая зводзіцца да таго, каб каля Польшчы згуртаваць усіх славянаў, за выняткам расейцаў, і стварыць блёк, які мог-бы супроцьставіцца Маскве і Нямеччыне. У рамках „славянскае ідэі" мела-б быць вырашана і нацыянальнае пытаньне беларускае і украінскае. Трэба аднак сказаць, што нічога канкрэнтага і рэальнага для зьдзейсьненьня славянскае ідэі ў польскім яе выданьні ня робіцца, ды агулам першыя польскія выступленьні ў гэтым кірунку не бяруць належна пад увагу сапраўдных імкненьняў Беларусаў і Украінцаў, а гэтым самым адразу ні можна лічыць на тое, што ўдасца правесьці „славянскую ідэю" ў жыцьцё. — 18.VI.38 памёр маршалак польскага Сойму Ст. Цар. Новым маршалкам Сойму выбраны б. прэм'ер і тварэц Безпартыйнага Блёку палкоўнік Славэк. Цяпер адбываецца надзвычайная сэсія Сойму, на якой разглядаюцца розныя законапраекты.

— Дзень 12-га чэрвеня, якога так шмат хто баяўся, прайшоў у **Чэхаславаччыне** спакойна. У гэты дзень закончыліся там выбары ў самаўрад, якія паказалі, што найбольшыя ўплывы маюць сярод чэхаў дэмакраты. Уплывы чэскіх скрайных партыяў зьменшыліся. Сярод немцаў найбольшыя ўплывы мае Гэнляін, які поўнасьцю падпарадкаўваецца Гітлеру. Агулам каля Чэхаславаччыны наступіла ўспакаеньне. Між урадам і нямецкай нац. меншасьцю йдуць перагаворы, каторыя маюць давясьці да згоды. Да аканчальнага аднак вырашэньня справы яшчэ далёка, бо немцы ўсё-ж моцна настроены супроць Чэхаў.

— У **Францыі** наступіў разлом сярод сацыялістаў. Левае крыло пакінула сацыялістычную партыю, а правае, на чале з б. прэм'ерам Блюмам, выказалася за ўрадам Даляд'е, проціў апазыцыі нацыяналістаў і камуністаў. Такім чынам у Францыі аканчальна разарваўся „людовы фронт." — Нядаўна ў францускім парляманце камуністычныя паслы пабіліся з пасламі нацыяналістычнымі. Бойка паўстала з прычыны спору ўсправе **Гішпаніі.**

— У ліпні месяцы мінае ўжо два гады, як у **Гішпаніі** трывае хатняя вайна. Палажэньне ўрадаўцаў сапраўды вельмі цяжкае. Фашысты ўсьцяж напіраюць і бамбардуюць усе месты, каторыя займаюць урадаўцы. Так напр. порт Алікантэ ад 25 V быў ужо бамбардаваны больш 30 разоў. Пробы Англіі давясьці да замірэньня не далі ніякіх вынікаў. Ды ўрэшце **Англія і Францыя** не памагаючы ўрадаўцам, а дапускаючы помач для ген. Франка з **Нямеччыны і Італіі,** прычыняюцца да зьнішчажэньня Гішпаніі. На ўсіх фронтах у Гішпаніі ідуць цяпер цяжкія баі.

— У **Савецкай Беларусі** каля Менску выкрыта тайная антыкамуністычная радыёстанцыя ў якой працавалі агенты Г.П.У. Калі іх раскрылі, дык яны не паддаліся. Пачалася страляніна, ў выніку якое абслуга радыёстанцыі была забіта. У **Савецкай-жа Украіне,** у Кіеве, украінцы адкрыта выступаюць ужо проціў Сталіна, што выклікала вялікую сэнсацыю, бо дагэтуль адкрыта ў СССР проціў Сталіна ніхто ня выступаў. — У хуткім часе над польскай граніцай маюць адбыцца вялікія манэўры савецкай арміі.

— На **Далёкім Усходзе** апошнімі днямі японцы за усякую цану хацелі прарваць кітайскі фронт і заняць ваеннае кітайскае места Ганкоў. Супроць гэтага кітайскі шмаб прыказаў разкапаць тамы (грэблі) вялікай Жоўтай Ракі, з якое хлынула вада і заліла ніжэй палажаныя аколіцы занятыя японцамі. Вада гэта затапіла 5000 японскіх ваякаў, 250 гарматаў і каля 80 танкаў, і адначасна каля 300.000 кітайскіх жыхароў. Страты страшныя, але наступ на Ганкоў затрыманы. Гэта сьведчыць, што кітайцы ад японскага наступу бароняцца і будуць бараніцца ўсякімі спосабамі, чаго не спадзяваліся японцы, каторыя думалі, што кітайцаў разаб'юць гуляючы. Апрача гэтага кітайцы стараюцца пазыкі ў Францыі і Англіі, у Амэрыцы-ж закупілі зброі за 21 міліёнаў даляраў. Знача вайна на Далёкім Усходзе зацягваецца на доўгі час. *jn.*

# USIAČYNA

**Pjanicaŭ začyniajuć u kletki.** U m. Bostonie (Ameryka) burmistr zahadaŭ, kab dva razy ŭ tydzień łavić pjanicaŭ, začyniać ich u žaleznyja kletki i vazić pa mieście dla naśmieški. U inšych-ża miestach u Amerycy burmistry zahadyvajuć navat začyniać pjanicaŭ u kletki z dzikimi žviarami, kab tam jany sa strachu, ćviarazieli. — Dobry sposab barać-by z pjanstvam. — Nie pamahajuć razumnyja słovy, dyk moža pamoža publičny styd i strach!

**Strašuaja katastrofa ŭ Kitai.** Niedaloka Kantonu ŭ Kitai zdarylisia dva ciahniki, z pad abłonkaŭ jakich vyciahnuli 100 trupaŭ i 100 ciažka ranienych čałaviek.

**Pieršy kirmaš lekarskich ziołak** adbyŭsia sioleta 24.VI u Vilni. Treba skazać, što hadoŭla, źbirańnie i handal lekarskimi ziołkami ŭ našym kraju ŭzrastaje. Šyrej ab hetym napišam inš. razam.

**Utapiłasia 9 asob** (sialan i sialanak) u race Buh kala m. Orli, jakija pierajaždžali łodkaj na sienakos, katoruju zalili chvali vady.

**Strašennaja bura z hradam** praniasłasia nadoviačy nad Ašmianskim pavietam. Straty ahramadnyja.

**Rasstralali 384 hienerałaŭ.** Hazety pišuć, što ŭ Savietach za apošni hod rasstralali 384 hienerałaŭ.

**Karespandencyjaŭ z kraju z pryčyny niastačy miesca ŭ hetym numary „Šl. Moładzi" nia možam źmiaścić.**

# Kruci dy mieru znaj

*(Adkaz „Беларускаму Фронту")*

Niepavažna vyhladaje, kali chto-niebudź małady nia maje svaich ustalenych pahladaŭ, daloka adnak horš, kali čałaviek starejšy dy jšče z vyšejšaj aśvietaj pačynaje šukac sam nia viedaje čaho: raz havoryć adno, druhi raz druhoje, krucić, čaplajecca da inšych i na inšych zvalvaje ŭsie biedy. Śladami takich ludziej na biełaruskim hruncie ŭ sučasny mament idzie ks. mgr. V. Hadleŭski iź svaim časapisam „Беларускі Фронт". Hety časapis uściaž šukaje da ŭsich pryčepkaŭ, a asabliva da „Šlachu Moładzi" i ŭžo nia moža vyciarpieć, kab nie zrabić jakojniebudź nam prytyčki. Razumiejem, jak škodnaj dla biełaruskaha ruchu jość niazhoda i sprečki, nia možam adnak nie baranicca ad biezpadstaŭnych napadkaŭ „Biel. Frontu", jaki i ŭ apošnim № 6 z 5.VI.38 vypisvaje niabyvałyja rečy.

My užo pisali, jak biezpadstaŭna dy niačesna „B. Front" u minułych hadoch staraŭsia pryšpilić nam klajmo biazbožnikaŭ i Lenina, tady kali „Šlach Moładzi" vystupaŭ i vystupaje suproć kamunistaŭ a tak-ža i suproć biazbožnictva. Pisali my tak-ža, jak da biezkaniečnaści „B. Front" ćvierdziŭ, što „Šl. Mol." vioŭ niejkija hutarki z „Kurjeram Powsz.", kali hetych hutarak nia było. Nie pierastaje tak-ža „B. Front" pisać, što „Šl.Mł." byŭ praciŭ ažyŭleńnia dziejnaści „Biel. Haspadarskaha Źviazu", tady kali „Šlach Mol." jak-raz vystupiŭ nia praciŭ „Źviazu", ale praciŭ pisaniny „B. Frontu", katoraja davała ŭładam padstavy dla źlikvidavańnia Biel. Hasp. Źviazu. — Voś jak pisaŭ u № 10 z 5.XI.37 „Biel. Front" u zaciemcy „Ažyŭleńnie dziejnaści Źviazu", dzie dasłoŭna hetak skazana: „Jak my čuli, założany ŭ 1928 h. d-ram Janam Stankievičam „Biełaruski Haspadarski Źviaz" ažyŭlaje svaju dziejnaść. Mety „Źviazu" takija samyja, jak i začynienaha „Biel. Instytutu Hasp. i Kultury"... Dalej: „Pažadana było-b, kab „Źviaz"... zamianiŭ zakrytyja biełaruskija arhanizacyi"... — Chiba-ź usim jasna, što takaja viestka dla „Źviazu", i ahułam dla biełaruskaha žyćcia jość škodnaj. Bo kali pišacca, što „Źviaz" maje takija samyja mety, jak arhanizacyja zakrytaja i maje henuju zakrytuju arhanizacyju zamianić, to tym uładam, jakija zakryli papiaredniuju arhanizacyju, dajucca-ź tyja samyja matyvy i dla zakryćcia „Źviazu". Pračytaŭšy takuju viestku my i zapytalisia, ci heta biazhłuździe ci pravakacyja, bo tak jano vyhladała i vyhladaje, a „B. Front" pierakručvaje kata da hary nahami i piša, što „Šl. Mol." byŭ praciŭ ažyŭleńnia „Źviazu", tady, kali sapraŭdy „Šl. Mol." praz uvieś čas adnosiŭsia da hetaj spravy vielmi prychilna. — Voś jak vyhladaje etyka i česnaść redaktara „B. Frontu".

U adnym z apošnich numaroŭ „Biel. Frontu" redaktar jaho z minkaj vialikaha znataka biezpadstaŭna čaplajecca i da čas. „Kałośsie" za toje, što ŭ hetym časapisie nadrukavany artykuł ab Zabejdzie-Sumickim, u jakim cytujucca z kitajskaj hazety „Gun-Bao" adpaviednyja skazy ŭ rasiejskaj movie. Redaktar „B. Frontu" chapiŭšysia za dumku, što kitajskaja hazeta drukujecca pakitajsku, i kaža z naśmieškaj, što treba było dać cytatu ŭ aryhinale h. zn. pakitajsku, abo ŭžo pabiełarusku. Tymčasam kitajskaja hazeta „Gun-Bao" vychodzić u dźviuch movach — u kitajskaj i rasiejskaj i jakraz cytata ŭ „Kałośsi" padana ŭ aryhinale. Dyk dzież tut praviny „Kałośsia"? Pravinaŭ, jasna, niama, a jość złość i demahohija „Biel. Frontu".

Dziŭnuju sapraŭdy rolu adyhryvaje „B. Front". Adnačasna treba skazać, što dziŭnyja sapraŭdy, pierałomy pieražyvaje i redaktar „B. Frontu" ks. V. Hadleŭski. Jahonyja pahlady dziŭna źmiennyja. Voś naprykład u 1934 h. ks. V. Hadleŭski ŭ svaim referacie na ŭhodki 25.III.1918, ab niasprytnaj telehramie Rady Biel. Nar. Respubliki da niamieckaha cara Vilhelma ŭ 1918 h., kazaŭ hetak: „Uhladajučysia na hetu spravu (na spravu telehramy — r e d.) ŭ perspektyvie 16-ci hadoŭ, my dachodzim da prakanańnia, što vysyłka telehramy była pamyłkaj". („Biel. Krynica" 1934, № 19). A ŭ 1937 h. ab hetaj-ža telehramie jon-ža kaža: „Ja choć nia byŭ inicyjataram telehramy, adnak uvažaŭ jaje razam z usiej Radaj za akt vialikaha dyplomatyčnaha značeńnia". I ciapier ks. V. H. telehramu hetuju baronić. („B. Front" za m-c śniežań 1937 h.)

Dalej ks. Hadleŭski, pačynajučy vydavać „B. Front" i havoračy, što budzie šukać srodkaŭ na vydavańnie hetaha časapisu, vykazaŭsia vialikim prychilnikam Ukraincaŭ i za supracoŭnictva z imi, što zusim było zrazumiełym. Tymčasam sioleta ŭ № 5 z 5.V „B. Frontu", u artykule „Uschodniaja Eŭropa i Biełaruś", bajučysia 40 milijonaŭ ukraincaŭ, radzić Maskvie i Varšavie łaskava źviarnuć uvahu na Biełaruś, jakaja, „uziaŭšy spadčynu pa Połacku", mahła-b paviaści „zaŭziataje zmahańnie suproć Vialikaje Ukrainy, bo jana moža mieć „pretensii da biełaruskaha Paleśsia, Bielščyny, a navat Biełastoččyny—što pry viedamaj nacyjanalnaj dynamicy ukrainskaha narodu hrazić kłopatami dla biełaruskaha narodu".

Kali „Chr. Dumka" źviarnuła ŭvahu na takuju niepažadanuju i nieaktualnuju ŭ sučasny mament pisaninu dla dabra biełaruska-ukrainskich adnosinaŭ i što na spravu hetych adnosinaŭ, biazumoŭna, nia mohuć mieć upłyvu takija varožyja vystupleńni, jak niejkaha Pilipčuka ŭ ukrainskim „Вістнику", dy što plany „B. Frontu" jakraz zychodziacca z planami polskaha sanacyjna - nacyjanalistyčnaha palityka dr. Bobžanskaha, dyk „B. Front" udaje, što ab Bobžanskim nia čuŭ i kaža, što „B. F." u 1936 h. ab ukraincach pisali vun jak prychilna... — Vybačajcie, ale ŭ pavažnych ludziej pryniata ŭvažać važnym apošniaje słova, a nia toje, što jon havaryŭ paru hadoŭ tamu nazad...

Ale nie na hetym kančajucca niekonsekvencyi i pierałomy ks. V. Hadleŭskaha.

Viedajem, što ks. Hadleŭski ŭ svaim časie byŭ probarščam u Žodziškach Vialejskaha pav. i adtul dumaŭ navat pryviaści biel. pilihrymku ŭ Kalvaryju. Praŭda, nie zrabiŭ hetaha nie z svaje viny, ale paśla ŭ 1935 h. braŭ udzieł u biel. pilihrymcy, ładžanaj Biel. Kaściel. Kamitetam u Vilni. Sioleta i letaś, kali arhanizavałasia biełaruskaja pilihrymka ŭ Kalvaryju i kali ŭsie badaj biełaruskija časapisy ŭ kožnym numary padavali ab joj viestki, bo nia kožny numar akuratna na viosku dachodzić, ks. V. Hadleŭski ŭ „Biel. Froncie" ani słoŭcam nie ŭspamianuŭ ab biełaruskaj pilihrymcy i ani sioleta ani ŭ min. hodzie ŭ biel. pilihrymcy nia braŭ udziełu. Biełaruskija-ź pilihrymki majuć sapraŭdy vialikaje relihijnaje i nacyjanalnaje biełaruskaje značeńnie i ŭ ich biaruć udzieł biełarusy ŭsich kirunkaŭ, za vyniatkam kamunistaŭ.

Nam, maładomu biełaruskamu pakaleńniu, hledziačy na žyćcio starejšych biełarusaŭ i pracujučy na biełaruskaj nivie, sapraŭdy stydna, kali tyja biel. dziejačy, katoryja, zdajecca, zdabyli ŭ biel. žyćci aŭtorytet i mieli mahčymaść być prykładam dla moładzi, drabniejuć, raźmieńvajucca, putajucca, łomiacca, piarečać samy sabie i kaniec-kancoŭ honiačysia za svajej pierarośšaj ambicyjaj, škodziać biełaruskamu adradženskamu ruchu.

J. N.

## Паштовая скрынка

**П. Граніту:** Апавяданьні атрымалі, разгледзім, падробны адказ будзе пасьля. Прывітаньне!

**Я. Кісялю:** Верш „Вясна" слабаваты. Ня вытрымана форма, разьмер. Радзім больш чытаць і пяра ня кідаць, бо здольнасьці да яго ў Вас ёсьць.

**М. К.:** Патрэбнае Вам пасьведчаньне ўжо выслана. Прывітаньне!

**К. Бунтарнаму:** Карэспандэнцыю выкарыстаем, вершы думкай добрыя, ня вытрыманы аднак у разьмеры і рытме.

**Ф. Хаванскаму:** Адзін верш „То краіна твая" надрукуем, рэшта слабыя і да друку не падходзяць. Аб басьні будзем магчы гаварыць тады, як атрымаем яе ўсю — гэтага што прыслалі— мала.

**С. Х.:** Матарыялы атрымалі, дзякуем, у меру магчымасьці будзем выкарыстываць. Вітаем!

**Ал. Г—ры:** Апошнія вершы ня вытрыманыя думкай і разьмер у іх кульгае. Пісаць аднак можаце, дык больш працуйце над сабой і над сваімі творамі.

**Я. Брылю:** Усё атрымалі, дзякуем, адказ будзе ў хуткім часе пісьмом.

**Ю. Кр.:** Часапіс будзем высылаць і чакаем на абяцанае.

**Я. Л.:** Вершы, на жаль, слабыя, жарт і караспандэнцыя добрыя і яны будуць выкарыстаны. Прывітаньне!

**С. Кр—ні:** Вершы слабаватыя і да друку не падходзяць, пяра аднак ня кідайце а больш чытайце бел. кніжак і пішыце.

**Ал. Шабл.:** Верш слабы і папрaвіць яго не магчыма, папрабуйце пісаць карэспандэнцыі і апавяданьні.

## Na dapamahovy fond biełaruskaj moładzi pry „Šl. Mł."

Žodzišnaja hrupa Biełaruskaj Pilihrymki achviaravała 2 zł., Jan Baryłovič—20 hr., J. Lachovič—30 hr. i K. Fiedarovič—30 hr.

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

Red. Kal. „Šlachu Moładzi".

„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.

Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.